# Вера Вярба




ВЕРШЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1986

## КРУГІ БЫЦЦЯ

Кругі быцця акрэслены, як мукі,
Неразгаданай існасцю вякоў.
Апошні круг — твае, напэўна, рукі,
Зачараваныя замест акоў.

Я лёс знайшла. І свет мяне адрынуў.
З табой і дня не пражыла маной.
Кругі быцця... Успомню вочы сына,
Што сочаць неадступныя за мной.

Кругі быцця... Ці бачны вы з вяршыні,
Адкуль глядзіш на маладосці луг?
Я, смеючыся, выгінаю шыю,
Нібы лаўлю выратавальны круг.

Кругі быцця вядомы, мабыць, зорам.
Жыццё ці смерць завершыць іх абрыс?
Ты для мяне як зменлівае мора,
Дзе сотняй рук прасцёрся кіпарыс.

## ЧЫЙ ГЭТА КОНЬ СТАІЦЬ?

Вы, коні, коні даўніх песень,
Старых паданняў юны свет!
Як людзям на зямлі ні цесна,
Ніколі ваш не знікне след.

Гісторыі сівой каварства!
Ты — век дваццаты, хлапчаня,
Жыццё было не варта царства,
Паўцарства ж — цэлага каня.

Куды імчыш стралой сягоння,
Папраўшы лёс і сэнс быцця,
Непадуладны часу коннік,
Працяг нязведаны жыцця?

Дрыжаць ад стрэчы выпадковай
Джыгіты ў чэраве машын,
Як выкрасаюць шлях падковы,
Аж бліскавіцы на шашы!

Не мне табе служыць пры доме,
Твайму каню даваць вады —
У княжым залатым шаломе
Ты непапраўна малады...

Хай поўніць твой апошні ранак
Шчаслівы кубак да краёў.
У векапомнасці кургана
Забытае імя тваё.

## ПАРТРЭТ

Партрэт здаецца легкадумным,
Як многа год таму назад.
І тэмпера ў адценні сумным
Згадае пра асенні сад.

Згадае юных дзён зявер'е,
Што адышлі ў нябыт даўно,
І вашу новую майстэрню,
У свет адкрытае акно.

Быў час спаткання нерухомы,
На сонцы віўся цветам хмель,
Былі мастак мне незнаёмы,
І тэмпера, і акварэль.

Гучалі фарбы, быццам гукі,
Мой твар свяціўся трапяткі...
Я помню вас і вашы рукі —
Два незабыўныя радкі.

Куды развёў нас лёс прывычна
За межы дзён і светлых рыс?
Застаўся ў памяці графічна
Той незавершаны эскіз.

Нібы чытаю верша строфы,
Партрэта даўняга радкі,—
Мой, разгаданы вамі профіль,
Як промень сонца, залаты.

## АРЭЛІ

Мой мілы, мы зусім не пастарэлі,
Нас толькі ў гэтым годы абышлі.
Дык разгадай высокія арэлі,
Каб адарвацца ўрэшце ад зямлі.

Прывычная і падуладна руху,
Ўзлятаю вышай сосен і бяроз.
Не разамкнуцца развітальна рукі,
Ты — мой самотны, адзінокі лёс.

Смяюся я да новага шаленства,
Лячу да сініх грымотных хмар,
І сніцца мне, як шчасця падабенства,
Адзіны твой непераймальны твар.

Як адышлі нягоды і напасці
І не жылося ў скрусе і журбе,
Смяюся я, не баючыся ўпасці,
Бо ведаю — вярнуся да цябе.

Як быццам дні любві не адгарэлі
І ты мне толькі лепшыя аддаў,
Пабудаваў чароўныя арэлі
І кожны дзень да вечара гайдаў.

Вось узлятаю да нябеснай стыні,
Не астудзіўшы з вёсен галаву.
Не дачакаю, што мяне пакінеш,
Павер, не я цябе перажыву.

Няўжо раней было не здагадацца —
Баюся я любві і вышыні.

Наканавана некалькі сарвацца
Альбо згарэць да попелу ў агні.

Застаўся крок апошні і рашучы
У небыццё расплёсканы і гнеў,
Каб ты застыў у роспачы балюча
І назаўсёды сэрцам скамянеў.

Але калі б на ўсё здагадку мелі —
Любіць і жыць, напэўна, не змаглі.
Дык разгайдай высокія арэлі,
Каб адарвацца ўрэшце ад зямлі.



У галавах маёй хаціны,
Як запаветных мар падман,
Трапеча тонкаю хусцінай
Вясновы бэзавы туман.

Я вокны насцеж адкрываю
Да сонца ў яблыневы сад,
Дзе цішыня мелодый мая
І бэзу лёгкі зарапад.

Дзе зіхаціць лістоты гранне
У свежых кропельках расы
І траў высокае буянне,
Не чутна музыкі касы.

Як вольна дыхаць, як жадана
Аб шчасці марыць і любіць
І верыць дням зачаравана,
Якім наканавана быць.

І добра ўспамінаць, каханы,
Аб нас у лепшую пару,
Як ранак бэзавым туманам
Калыша новую зару.

* * *

Звінеў ручай у снах бярозы,
Як лета зводзіла масты.
Я збудавала дом для прозы,
Калі мяне пакінуў ты.

Быў светлы сум у лістападзе
Да вечаровай нематы.
Мы развіталіся ў спагадзе,
Калі мяне пакінуў ты.

Наперад ведаю, што будзе
І колькі часу праміне.
І тыя, што цябе асудзяць,
Не пашкадуюць і мяне.

Сыходзіш ты з кругоў касмічных
У шкадаванні новых страт,
А я не стала празаічнай,
Як гэты чысты лістапад...

## ТРЫЯЛЕТ

Пачую ў набліжэнні навальніцы
Далёкі водгук голасу твайго
І цішыню настоеных лугоў
Пачую ў набліжэнні навальніцы.
На сэрцы стала лёгка ад таго:
Прыйшла зіма, а лета будзе сніцца...
Пачую ў набліжэнні навальніцы
Далёкі водгук голасу твайго.

* * *

Цераз нягоды і гады
Пранесла шмат выпрабаванняў.
Я палюбіла гарады
Апошняй марай спадзявання.

Як шлях нязведанай тугі
У стратах колішніх
і новых
Быў кожны горад дарагі
Сустрэчай нашай выпадковай.

Сустрэчай,
што мірыла нас
У рытме бурным і шалёным,
Якую пазычаў нам час
Званком далёкім тэлефонным.

Ты клікаў — ехала туды,
Маршрут не зверыўшы па картах,
Былі чужыя гарады
Надзейным сховішчам і вартай.

Мне з памяці і дня не збыць.
Смяяліся:
табе не дваццаць!
Я ездзіла цябе забыць,
Спяшалася з табой расстацца.

За што было мне столькі мук,
Недасягальнай і прыгожай,
За нематою сцен і рук,
У крыўдзе рэўнасці варожай?

На гэта не знайду адказ.
Хто не любіў — бяды не зведаў.
Паклічаш у апошні раз —
І я ў апошні раз прыеду.

Прыеду на тваё святло,
Ператварыўшы ў свята будзень.
Хай стане шчасцем, што было,
Таму, што іншага не будзе.

* * *

Хто знае, што каму належыць? —
Збавенне лёсу ў забыцці...
А я пераступіла межы
Дазволенага мне ў жыцці.

Беспамылкова адчуваю:
Не пераменіць вір вады.
Стаю адна на самым краі,
На стромкім беразе бяды.

Шасцерыком, вясельным цугам
Мільгнула шчасце ў старане,
А ты маладзіковым кругам
Недасягальны для мяне.

Калі згубілася сцяжынка,
Да распачатага віток? —
Пралегла слабая маршчынка,
Як безнадзейнасці выток.

Застылым часам на змярканні
Мне будзе рэха дзён звінець.
Ніхто не зведаў сэнс кахання,
Дабро і зло, жыццё і смерць.

Усё, што нам акрэсліць слова
Праявай волі пачуцця,—
Душы звычайная замова,
Бяссмерце болю забыцця.

Яшчэ рэальным бачу зрокам,
Лаўлю апошні твой пагляд,
Ды за мяжу насустрач кроку
Не саступлю, як год назад.

* * *

Я веру, што жыццё прадбачыць
І прадчувае лёс паэт,
Але з гадоў маіх юначых
Ужо не скласці мне санет.

Не наталіць адвечнай прагай
Імклівай будучыні дзень
У барацьбе надзей з развагай,
Шчаслівы ловячы прамень.

Ацiх мой твар, як светлы вечар,
Нібы адводзячы бяду,
Я рукі тонкія на плечы,
Забыўшыся, табе кладу.

З былога, што наканавана,
Паводкай весняю сплыло.
Цябе не ведала, каханы,
Таму і шчасця не было.

Хай прадчуванні тых не мучаць,
Хто спрабаваў развесці нас,—
Людская змова не разлучыць,
Калі спаткала доля ў час.

Наперакор, здаецца, свету
Не ўпершыню мне зноў любіць.
Прадбачаць многае паэты,
Што потым суджана згубіць.

Не страшыў і раней ніколі
Няўмольны бег пякучых страт.
Як на адным дыханні болю
У халады цвіце мой сад.



Пасля дажджу запахла мятай.
Яшчэ антонаўкі не спелі,
Але, здаецца, кружыць хату
Гаркавым водарам і хмелем.

Я ранкам вымыю падлогу,
І вытру чысты стол дасуха,
І мяты завару ў дарогу
Да чаю, шэпчучы прысуху.

Ты едзеш у далёкі горад,
На шлях з табой іду сцяжынкай,
Але ў вачах твой профіль горды
Мне засціць кожная хмурынка.

Як далеч вобраз твой уносіць!..
І твару ўжо зусім не бачу...
У жытнім полі між калоссяў
Я нахілюся ціхім плачам.

Так рукі колючы і грудзі,
Я плачу соладка-гаюча.
Не знаць табе, не ведаць людзям,
Як боль мяне нясцерпны мучыць.

Пакуль жа досвіткам крылатым
Хай кружаць сны настоем хмелю.
Пасля дажджу запахла мятай,
Антонаўкі яшчэ не спелі...

## НАВАГОДНЯЕ

Як час ляціць нячутна, скора...
Насустрач лёсу непагод
Паедзем, дружа мой, за горад,
Сустрэнем разам Новы год!

Там хаце адзінока ў лесе
Сярод пустых акон, двароў,
Няма ні музыкі,
ні песень,
Ні тэлефона, ні сяброў.

Агонь гарыць.
Пры ім мне добра
Маўчаць з табой у цішыні.
Відаць, і мой адчайны продак
Аб шчасці марыў пры агні.

Ён думаў аб жыцці і смерці,
А злая непагадзь гула.
Мінула ўсё, ды прагне сэрца
Агню і роднага цяпла.

Ідуць дажджы старога года,
А новы — высакосны год,
Таму парушыла прырода
Жыццёвы свой кругазварот.

Хто ў свята п'е, хто грошы лічыць,
Хто нудзіцца, як дзень дажджу.
Маўкліва на тваё аблічча,
Вачэй не зводзячы, гляджу.

Нібы чытаю ў чыстых рысах
Імклівай маладосці цуд,
І артыстычнай долі высі,
І векавы людскі прысуд.

Надыдзе Новы год сягоння.
Наяве дзён ці толькі ў снах —
Адно святло — твае далоні,
Мая бясконцая вясна!..

* * *

Зіма са стыхіяй не зладзіць —
У студзені бура раве.
Мой дом, як Лятучы Галандзец,
У непагадзь ноччу плыве.

Але нагадае паданне
Не мёртвых няшчасных ахвяр,
А тую дарогу кахання,
Што выбера толькі бунтар.

Плыву паміж хваляў шалёных,
Высокія мачты рыпяць,
І чорныя тыя ж праклёны
У твар мне дарэмна ляцяць...

Ты разам з другімі паверыў,
Што я наклікаю бяду...
Ды ўсё-ткі аднойчы на бераг,
Як судзіць паданне, сыду,

Забыўшы на крыўду і гора,
Пра наша расстанне з табой.
Праводзіць мяне толькі мора,
Сівы несціханы прыбой.

Зямная, па сонечным промню,
Як тонкай стралы вастрыё,
Таму што кахаю і помню —
Прыйду я па сэрца тваё.

* * *

Забыць — няпроста, як забыцца,
У думках толькі помніць можа...
Так чэрвеньскія навальніцы
Душу грымотамі трывожаць.

Імгненна хмарнае змярканне
І ветру шум уладна грозны
Мне адгукаецца ў чаканні
Неўтаймаваным і трывожным.

Старыя дрэвы гнуцца долу,
Сівая бура рвецца ў вокны...
Куды ж ты знік, мой дзень вясёлы,
Апоўдзень, чысты і высокі?

Радкі жыцця майго нанова
Не перапісаны адчаем,
І раніцу, нібыта слова,
Усмешкаю надзей страчаю.

Нішто бясследна не мінецца:
Трывогі, дні, былыя годы.
Расстанемся, ды ў нашых сэрцах
Мы застанёмся назаўсёды.

І стане кожнае світанне
У скроні стомленыя біцца,
І часта мроіцца спатканне
У надыходзе навальніцы.

* * *

Час лёгкі на любы пачатак.
Ці стане новым дзень другі?
Я прыхавала для расплаты
Адны надзеі і даўгі.

Здаецца, што не хопіць сілы
Стрывацца ад навалы бед...
Не ведаю, каго ўгнявіла,
Што абурыўся цэлы свет.

Нямногія, спытаўшы долю,
Пачулі ў роспачы адказ,
Якія лекі ёсць ад болю,
І спадзяваліся на час.

«Усё міне» — такія словы
На персцяні насіў мудрэц.
Як шчасце, гора выпадкова,
Пачаткамі вяршыць канец.

І толькі вернае чаканне,
Бясконцае, як небасхіл.
А птушка нашага расстання
Ляціць размахам сініх крыл.

Начамі лета халадзее,
Асенні ліст услаў зямлю.
Як непапраўна, безнадзейна,
Бездапаможна я люблю...

* * *

Як свечка, гасне ціхі вечар.
На вуліцах знікае шум.
Калі ты думаеш аб нечым,
На твар кладзецца светлы сум.

І журыць мой спакой трывога,
Нібыта даўняя віна.
І наліваю зноў нямнога
У кубак белага віна.

Мой рух пазначан прымірэннем,
Што абяцае вечар дню,
Шчаслівым водсветам імгнення,
Цяпельцам хатняга агню.

Даўно бяседы ручаінка
Аднесла нашы галасы,
Адна, як восень, павуцінка
Упала мне на валасы.

А позірк твой зусім далёкі
Няясным смуткам халадзееў,
Так голуб дзікі, адзінокі
Аднойчы ў вочы мне глядзеў.

На вечаровае сутонне,
Пераступіўшы цень святла,
Я дакранулася далонню
Твайго разбітага крыла...



Ускалыхне твой гнеў шалёны
Маёй душы жаночай гладзь.
Нібыта дзікія плямёны
У вочы грозна мне глядзяць.

Але ў адзін жаданы дотык
Гадзінамі здаецца міг,
Сатканы з новае пяшчоты
І прымірэння рук тваіх.

Таму не выказаць у слове
Ні праўды шчасця, ні маны...
Насіць мне кайданы любові
Без пакаяння і віны.

## ТВАЁ ІМЯ

Тваё імя — жыцця палітра
Таемных колераў жывых,
Яго шапчу, нібы малітву,
І паўтараю зноў услых.

Увечары сырой адлігай
Я плечы хутаю глыбей,
Працуючы над новай кнігай,
Дзе вершы толькі пра цябе.

Ледзь стома закрывае вейкі,
Я слухаю начную ціш.
Са шкоднікаў маёй сямейкі
Заўсёды побач кот Чарныш.

Цікуе, як чытач найпершы,
Што крытыкам ён мог бы стаць:
Выключна на лірычных вершах
Так самавіта любіць спаць.

А я не сплю, чакаю поўню,
Пакуль бяссонне не міне,
Пішу імя тваё: — Успомні,
Гарыць святло ў маім акне.

Адчаем вольнага здзіўлення
Ты застанешся назаўжды,
Як несканчоны міг натхнення,
Якому доўжыцца гады.

Бы трэшчыны вясновай крыгі,
Дзе не стрывала плынь зіма,
Радкі нявыдадзенай кнігі
Адвечнага твайго імя.

## БЕЛЫ ВЕРШ

Вы, ямбы мілыя, харэі,
Да вас звяртаюся найперш
І, закаханая, хварэю,
Калі складаю новы верш.

Вам, палахлівыя, як німфы,
Няўлоўныя, нібыта сон,
Жаданыя заўсёды рыфмы,
Таксама нізкі мой паклон.

Ужо зімы пара прыспела.
Па лету сум нашу ў грудзях,
І белы верш на колер белы
Мне часта сніцца па начах.

Той верш, які наканаваны
Імкненнем сэрца маладым,
Рукой жыцця нерыфмаваны
І не прачытаны нікім.

Ён сніцца мне зімовым полем,
Што пераходжу напрасткі,
І некрануты белы колер
Згадае белыя радкі.

Дзе не ляглі кахання цені,
Разлукі здрады не было...
Іду я ў свет на летуценні
І непагаснае святло.



Перажыву адчай змяркання,
Трывогу мар увечары,
Зімовай вуліцы маўчанне
І белы снежань на двары.

Настрояў змены і нягоды
Перажыву шчаслівым днём,
Пачуццяў знешніх прахалоду
І боль, апалены агнём.

За снежнем напярэймы студзень
Спяшаецца ў дакладны час.
Падзеі новыя і людзі,
Магчыма, раз'яднаюць нас.

Ды не разлучыць у ранейшым
Нас праўда памяці самой,
І вобраз твой у кожным вершы,
Як і туга мая, са мной.

Калі ў змярканні вечаровым
Я чую водгалас завей,
Памроіцца кахання слова,
Якое нас перажыве.

## ЧАС РАЗВІТАННЯ

Час развітання ў гэтым доме
Пераступіў ізноў парог,
Дарожным знакам на заломе
Маладзіковы выспеў рог.

Адчай начы мяне прыспешваў
І адганяла думкі прэч,
Калі згадалася з усмешкай
Знарок пакінутая рэч.

А горад жыў сваёй турботай,
І быў дзвярэй не чутны грук...
Што знойдзеш ты да адзіноты
Замест маіх світальных мук?

Што ўспомніш песняй вечаровай
Да слова ціхага: — Бывай! —
Калі за хмараю вімовай
Замгліцца нізкі небакрай?

Калі студзёная завея
Свет замятае пакрысе,
Якія мары і надзеі
Журбота ў сэрца данясе?

Хай будуць дні і спадзяванні
За долю лепшую даўжэй.
Усё, што варта даравання,
Час развітання зберажэ.



Калыханку я спяваю
На твае жаданні-сны.
Словы з песень адбіраю
Паўзабытай даўніны.

Што каханымі пражыта,
Не адмерыць смутак мой —
Узышло на нівах жытам,
Парасло ў лугах травой.

Па гаях лістотай новай
У праменнай вышыні
Трапяталі сны любові,
Незасмучаныя дні.

Людзі верылі і зналі,
Як калісьці ў даўніну
Варажбіткі чаравалі
Ад кахання і агню.

Ад сурокаў і сухотаў
Слова дзейснае было,
Толькі вось ад адзіноты
Нам замовы не дайшло.

Пад халодным небасхілам
Песняй зорку калышу
І тваіх жаданняў, мілы,
Адзінокую душу.



Няхай зіма мой лёс адбеліць
Ад чорных бед і шэрых дзён
Палотнамі снягоў пасцелі,
Дзе сніўся ты, як летні сон.

Магчыма, смутак мой застыне,
А сэрца стане халадзей,
Змагу ўздыхнуць усмешкай сына,
Не пазбягаючы людзей.

Хай у вачах тваіх патоне
Спакой зімовых берагоў,
А час праходзіць скрозь далоні,
Не супыніць нічым яго.

Твае вясновыя сцяжыны
Марозны іней закране,
На лбе глыбокія маршчыны
Пакіне шчасце за мяне.

Хай завірухі снежнай кола
Кружыць імгненнямі начы.
Як летні сон, знаёмы голас
Яшчэ ў душы маёй гучыць...

## МІМОЗЫ

Стаялі лютыя марозы,
Скавалі ўсе шляхі зямныя.
У хаце першыя мімозы
Праменілі святлом, жывыя.

Я ведала, як засынала,
Што водар іх мяне разбудзіць,
Так пахне толькі снег расталы,
Калі вясну ўдыхаюць грудзі.

Ты з кожнай новае паездкі
Заўсёды кветкі мне прывозіў,
У дні мае па назвах кветак
Цяпер прыйшла пара мімозы.

Пара надзей, пара спатканняў,
Што апявалі ўсе паэты,
Па ёй спыняліся ў блуканні
Людскія зоры і планеты.

І я малю за той прытулак,
Каторы знойдзеш ты, каханы,
Цяплом і радасцю прачулы,
З дарог людскіх расчараваны.

Прачнешся раніцай вясновай
І час з усмешкай прывітаеш,
Успомніўшы спагады словы,
Мяне, далёкую, згадаеш...

* * *

Сняжынка, чыстая слязінка,
Зіма-матуля састарэла,
Але віхурыцца сцяжынка
З яе рукі заледзянелай.

Удзень і ўноч завея кружыць,
Вятры гуляюць, як з пахмелля,—
Ці месяц нежанаты тужыць,
Ці ведзьма справіла вяселле.

Наступны тыдзень у тумане
Паўстала сонца за градою,
Нібы павеяла дыханнем
Снягоў з расталаю вадою.

Я каву п'ю, адчуўшы горыч
Расстання і дарогі новай,
А ты пра нешта мне гаворыш,
Але не разумею словы.

Далёка позірк мой блукае,
У іншых днях быцця праменных,
Дзе галасы вясну гукаюць
На прадчуванне перамены.

Здаецца, слухае прырода,
Адлічвае сама імгненні
Пары адвечна юнай года,
Ад сну шчаслівага збавення.



Галубоў буркатанне
Сэрца слухае ў скрусе.
Гэта чыстае ранне,
Як вясновыя гуслі.

Вецер струны настроіў
На балады лясныя.
Ціхі дом пад гарою,
Аканіцы разныя...

Сонца вымыла вокны
Да празрыстай сінечы,
На бярозе высокай
Аблачына трапеча.

І душы маёй цесна,
Прагне шчасця і долі,
Жаўруковае песні
Над прасторамі поля.

А зямлі не ўзаралі,
Надвячоркам марозна,
Паміж голых праталін
Снег ляжыць у баразнах.

Але ўсё ў наваколлі
Зрух прыроды вітае.
Хутка прыйдзе на поле
Зноў пара пасяўная.

На адноўленых пожнях
Будзе рунь залаціцца,
І вясны маёй позняй
Адгукнуцца грамніцы.

* * *

Наладжу я ў хаце
Бабуліны кросны,
Каб выткаць свае
Закаханыя вёсны —
Узорам пялёсткаў
І колераў мая,
З блакітных адценняў,
Што памяць згадае.
Я б выткала сонца
Гаючыя промні,
Лугоў красавіцкіх
Шырокія поймы,
Сляды ручаінак,
Што знікнуць паспелі,
Бярозавы поўдзень,
Туман акварэлі...
Ды мне не сапкаць
Залатыя палотны.
У хаце маёй
Па табе адзінота.
Яшчэ красавік
Не садзіўся за вёслы,
Далёка мае
Закаханыя вёсны.

## КРЫНІЧКА

З-пад каранёў глухіх крынічка
Спрасонак чулася ледзь-ледзь.
Снег не сышоў,
                    але бруснічнік
Пачаў на сонцы зелянець.

Прыкметны ўжо ў дыханні бору
Прадвесня водар малады,
Ля ручаінкі,
                    як узоры,
Адны птушыныя сляды.

Іду сцяжынкай аднаўлення,
Трапляю ў заячы слядок,
Бруіць крынічка на здзіўленне,
Прабіўшы снегавы грудок.

Тут час нічога не састарыў —
Заўважу з лёгкаю журбой,
Падношу мяккі снег да твару,
Крынічнай мыюся вадой.

Так радасна заб'ецца сэрца
На сойкі ветлівай ускрык.
Сюды прыходзіў,
                    мне здаецца,
Вясёлы месяц сакавік.

Ён нахіліцца меў спакусу,
Далоні грэючы ў вадзе,
Смяяўся твар яго бязвусы,
І свет вакол памаладзеў.

Ва ўсім жыве вясны прысутнасць,
А значыць — і ў быцці маім,
Нібыта зрушыў час нячутна
Без шкадавання аб былым.

І смутак дзён, і жаль прачуты
Адыдуць хутка назаўжды,
Як адыходзіць месяц люты
Хмурынкай веснiе вады.

* * *

З прызнанняў дружбы
Многае забыта,
Сяброў, як дзён,
Ужо не далічыцца,
Шмат ісцін спрэчных,
Іншымі
даўно адкрытых.
На жаль,
ва ўсім
Так лёгка памыліцца...
Ты, памяць,
возерам
Без берагоў трымаеш
Віры адносін
І спатканняў навальніцы,
А лёс мой,
як караблік папяровы,
Надзеяй сонечна
На хвалях залаціцца,
Нясе
кахання
Страчаныя словы...
Адна
Пра вернасць толькі нагадаеш,
Красуня гордая,
Маяваўчыца,
Калі глыбокім
вечарам
Вясновым
Чужыя крокі слухаеш,
Мяне чакаеш.
Падобная
на сфінкс паўночны,

Ляжыш каля парога
Нерухома,
І поўсць у цемры
Інеем іскрыцца,
Паблісківаюць
Агнём зялёным
вочы...
Дзівіцца на цябе
Магу без стомы
Бясконцым позіркам
Міжзорнага бяссоння
У цішыні
старога дома,
Які бязгрэшна
Шчасце абмінула.
Здаецца часта мне
Часінаю прачулай,
Што блізка бачу
Душу тваю
Да самага прадоння,
Адвечную
ў адданасці сабачай.
Я моўчкі лашчу
Галаву табе
далонню.
Не будзе сябра
Лепшага ў мяне.
І не было —
дарэчы...
І безнадзейнасць
Больш не скалане
Ва ўсведамленні
існасці
Бясспрэчнай.



Сустрэліся,
сцвярджаючы ўскосна —
Шляхі перасякаюцца,
Як паралельныя прамыя.
І здаўся вечар той
Бязлюдней космаса,
Мы прывіталіся,
даўно чужыя.
Было ў сустрэчы
Штосьці непапраўнае
І разам з тым
Суцешліва часовае,
Я ведала:
З размовы нецікаўнае
Не застанецца ў шчырасці
Ні слова.
Шмат год мінула,
Можа,
нават страчана.
Як спадарожнік,
Ты гуляў арбітамі.
Я пасміхнуся ветліва
ўдачніку,
Несправядлівасцю
Маёй забытаму.
Прыемна пакланіцца
знакамітасці —
Насіць ярэма славы
Чым не рызыка?
Твайму абліччу
Застарэлай сытасці
У імя жабрацтва
Пакланюся звысака.

Мы не сябры цяпер
І дзякуй, што не ворагі,
Але пасцерагуся
падсвядома
Тваёй увагі,
Што каштуе дарага:
Мы ж некалі
былі з табой знаёмы.
Адметны вобраз твой
Усімі рысамі
Прыроднымі
Ці ў доўг,
пазычанымі з веку —
Няўтольнай прагай
Набыцця карыснага.
Я рада, што не з тых,
Хто можа быць табе
Патрэбным чалавекам...
Таму маўчым
Пад маладымі ценямі
Галактыкі
і залатых акацый.
Прыбой даносіць
Голас мора ўспенены
Праз галасы
Былых цывілізацый.

## МАЁВЫ ДОЖДЖ

Апоўначы
маёвы дождж
Пра казкі мне шапоча.
Дом на гары стаіць,
Прыгожы і крылаты.
Маленства свет
Памроіцца
бяссонным ночы,
Апоўначы,
У прадчуваннях страты.
Бабуля,
ты мяне
Даўно не чуеш...
Усё жыццё
змагалася з бядою,
Казала так:
— З бядой пераначуеш,
То сыдзе ліха
Дажджавой вадою.
Умее гора
выпадкова здрадзіць —
І прыйдзе,
І пакіне нечакана...
Каб мець
тваё цярпенне
З болем зладзіць,
Былым надзеям
Верыць апантана.
Мой іншы век.
У жорсткасці тэхнічнай
Другімі сталі людзі,
Новымі — паняцці.
Я маю шмат заняткаў

Празаічных,
Якіх табе
Не змушу растлумачыць.
Я ведаю
і геніяў бяздушных,
Што прадавалі
Сябра
на даверы,
І талент скарысталі
раўнадушна,
І дасягнулі
слаўнае кар'еры.
А многія
так састарэлі рана...
Хто па-сапраўднаму
Быў з іх шчаслівы?
Ці марыў сярод ночы
Закаханы
У адзіноце,
як бядзе тужлівай?
Магчыма, час
Ім горшае адмераў —
Страх за пражытае
Затоены прызначыў?..
Маёвы дождж
Ледзь стукаецца ў дзверы,
Напэўна, ноч
Па маладосці плача.
Пад раніцу
Мой сум мяне пакіне,
Надыдзе дзень
Няспешлівай хадою.
За небакрай
вясновa-сіні
Сплывуць трывогі
Дажджавой вядою...



У спалучэнні
вобраза са словам,
Напэўна,
вобраз
Нарадзіўся першым,
А розум наш
па сэнсу,
Паступова
Даваў яму адценні
Слоў найлепшых.
Але ж як многа
Ў свеце неспазнаным
Загадкавых пачуццяў
і здарэнняў —
Падараваны
вобраз твой, каханы,
Праз яву дзён,
Звыш часу вымярэння.
Не падабраць яму
Па сэнсу слова
Канкрэтна
ўласцівага значэння,
Бо кожны раз
Сваім з'яўленнем новым
Здзіўляе свежасцю
Пераўтварэння.
Пад летні дождж
Цябе згадаю ціха —
Знаёмы чую,
Мне здаецца, крок,
Праясніць неба
Ласкава, пакрыху —
Як любы твар

Пабачыцца здалёк.
Тваю прысутнасць
Я сачу паўсюдна,
Куды б мяне
Шляхі ні прывялі:
У адзіноце,
Пры сустрэчы люднай,
Я ведаю:
            ты побач,
На зямлі.
Шчаслівы той,
Хто быць каханым
                        мусіў,
Хто сам кахаў
Без часу і мяжы.
Я непазбежнай смерці
Не баюся,
Баюся,
        каб цябе не перажыць.
Як суджана,
Хай парастак мой кволы
Травінкай стане
Сакаўных лугоў,
У памяці
            пахіленай не долу,
А да гучання
                галасу твайго.

## ЗДЗІЧЭЛЫ САД

Мяняюць поры года
Дні няспынна,
Ды час нязменны
Памяці ў спагадзе.
Што лета міг!
Мне помніцца
гадзіна
Па восені
ў здзічэлым садзе.
За небакраем
Дажджавой аблогай
Стаяў пачатак
Будучага рання,
Мы ехалі
адзінаю дарогай
Прасветленых праз хмары
Спадзяванняў.
Па шклу сцякалі
Кроплі коса
Бясконцыя,
як успаміны,
Глыбокі след дарожны
Ад калёсаў
Плыў у раку
Размытай каляіны.
Мы ехалі,
не верачы ў прыкметы,
Галоўнае,
каб надалей ад дому,
Нібыта па зямлі
Другой планеты,
Дзе, дзякуй богу,
Не было знаёмых.

Не назаляў нічый
Уважны позірк востры,
І не было каму
Задаць пытання,
Чаму спыніліся
Каля маўклівай вёскі?
Хто напрарочыў
Гэтае спатканне?
Відаць, дзвярэй
Даўно не адчынялі ў хату.
Зруб ад вянка
Сеў да зямлі замшэлы,
Забітыя крыжамі вокны,
Быццам цераз краты,
Глядзелі ў сад,
Пакінуты,
здзічэлы.
Буяла ўсё,
Нягледзячы на восень,
І нават дождж
Са смутаю халоднай
Не парушаў
Шчаслівых тых адносін
Суіснавання
дрэваў і свабоды.
Яны раслі
Ля хаты тут
спрадвечна,
Усыпаныя
познімі пладамі,
Напэўна,
што па ўзросту чалавечаму
Перажылі
гаспадара гадамі.
Сцяжыны зніклі
За травой высокай,

Заблыталася голле
Без нагляду...
І стала раптам
Сэрцу адзінока:
Мне старасць уявілася
Здзічэлым садам.
Асенні сум
Пачуцці заглушыў,
Калі падняла з долу
Яблык спелы,
Як напамінак
Аб жывой душы
І маладосці
яблыні ссівелай...

* * *

Пазнаю голас твой з паўтона,
Як дасканалы інструмент,
Цераз мембрану тэлефона
Знаёмы чуецца акцэнт.

І мовы мілае паўторы
Твой голас данясе на слых,
Дасвецце стэпавых прастораў,
Імчанне коней вараных.

Таполяў срэбра, нівы шолах,
Трымценне гнуткай цецівы
Палётам нагадае голас,
Арліны клёкат сінявы.

Як подых сечы нечаканы
З сівых вякоў і туманоў,
Твой профіль мроіцца чаканны
Забытай песняй курганоў.

І адкрываецца замглёна
У нябыце дзён мне гэты міг,
Дзе меч славянскі нескароны
Чароўным голасам застыг.

## ЯРАСЛАЎНА

Не наяве ўяўнай,
Старадаўняй журбе,
Праз вякі Яраслаўнай
Клічу зноўку цябе,
Прасціраючы рукі
Ад быцця берагоў
Цераз бездань разлукі
Да кахання твайго.
Цераз думы і мары,
Захлынаючы крык,
На вясёлку і хмары
І жыцця маладзік.
Стаў, як памяць пяшчоты,
У знявер'і нястач
Гэты плач адзіноты,
Па каханаму плач.
Пакланюся я долі
Старадаўняй журбой,—
Дай жа, княжа, мне волю
Развітацца з табой.
Будзь жа ты літасцівым
З маладое рукі
Хоць бы імем шчаслівым,
Што гучыць праз вякі...

1976

* * *

Пакуль жыву, цябе кахаю,
Пакуль кахаю — я жыву.
І першы снег, і квецень мая
Тваім сузор'ем назаву.

Як лістапад пагаслы ўвосень,
Хмурынка памяці мая
За боль, каторы ты прыносіў,
За роспач, што дарыла я.

Ні паратунку, ні збавення
Ужо ніколі не знайсці.
Сустрэч кароткія імгненні
Аднойчы выпалі ў жыцці.

І тых хвілін не растлумачыць,
Што нагадаюць шчасця міг,
Калі цябе ізноў пабачу,
Як прадказанне дзён маіх.

На сонечны прамень вясновы
Галін раскрыецца лісцё —
Так мне імгнення дастаткова
Пражыць з табой адно жыццё.

## БЫВАЙ!

Зязюля адкувала.
Час жніва.
Рабіны
набрынялі гронкі,
І лета,
што стаяла ў галавах,
Закрэслівае чыстыя
старонкі.
Мой рукапіс
Няскончаны таксама;
Жыву, як і раней,
Надзеямі натхнення,
Па вопыту
засвоіўшы старанна:
Здабытак працы —
завяршэнне.
Закрэсліваю
і пішу нанова
Пачуцці, мне ўласцівыя,
Няпэўна,
Ды цвёрда знаю:
вобраз твой
Сугучны слову
«Бывай!».
Я завяршу радок:
Бывай, любві маёй паэма!
Мне думаць так
І радасна, і сумна,
Бо я не веру
Ў гэта развітанне.
У доўгіх днях,
Аднолькава бяздумных,

Выратаванне —
нашае каханне.
І ўсё ж скажу:
— Бывай!
Пяшчотаю далоней,
Якія захавалі знак
Твайго аблічча.
Хай з цемры болю
І святла прадоння
Нам усміхнецца шчасце
Позняй знічкай.
Сустрэчы тыя,
Што забралі годы,
Хай застануцца зноў
За небакраем.
Даруючы
табе свабоду,
Я свой палон
Па вернасці сцвярджаю.
Бывай!
Мой голас,
Як тугой зачараваны,
Ураніцы
цябе ўстрывожыць
Паўторам лепшага
падману
Хвіліны шчырасці прыгожай.
Я абяцаю —
За табой па свеце
Пайду, як цень,
Які не мае стомы.
Такой мяне
сустрэў ты ў леце
І ўпершыню
душой запомніў.

# МАЦІ

Не зязюля кувае ад ранку,
Дзе дзяўчына-каліна цвіце.
Гэта маці мая партызанка
Кліча ўголас дадому дзяцей.

Свет схадзіла, не знаючы стомы,
Сорак год, як мінула з вайны,—
Не вярнуліся хлопцы дадому,
Ні магілы няма, ні труны.

Палічыла ёй старасць гадочкі,
А зямля не прымае яе...
— Адгукніцеся вы, галубочкі,
Дарагія сыночкі мае!

Дзе шляхамі вяла яе доля,
Снег узімку цяпер растае,
І лясы пасівелі ад болю,
І салоўка даўно не пяе.

Хай жа ворагам сняцца да смерці
Невідушчыя вочы яе,
І набатам гучыць яе сэрца:
— Дарагія сыночкі мае!



Як лес шуміць! І дні і ночы
Скрозь сны і памяць мне чуваць,
Як лес шуміць. Нібыта хоча
Аб патаемным расказаць.

Каб зразумець прыроды мову,
Травы і трапяткіх галін,
Каб знаць, якое праўды сховы
Трымаюць шаты верхалін!..

Пра што апавядае шумам
Нам лес у восеньскі туман —
Перадае чужыя думы?
Спявае песні партызан?

Трывогі чорныя гадзіны,
Людской надзеі светлы міг —
Пра ўсё нашэптваюць галіны,
Калі прыслухацца да іх.

Куваюць быль адну зязюлі
Зямлі пакутнае мае:
Жанчыну даганялі кулі,
Знямелі ножанькі яе...

Балотам, лесам у блакаду
Ішоў атрад каторы дзень,
Яна б і бегчы была рада —
Дачушка спала ля грудзей.

І вось, калі ўжо сіл не стала,
З адчаю ў страшную з хвілін
Дачку маленькую схавала
Пад прыцемкі старых ялін.

Назад вярталіся няскора,
І дзень ёй здаўся за гады.
Ссівела маладзіца з гора,
Дзіця шукаючы тады.

І людзі разам з ёй малілі,
Успомніўшы пра ўсіх багоў,—
Забыла, дзе стаіць яліна,
Прыкмету схавішча таго.

Ды лёс вайны судзіў іначай —
Праспала час ліхі дзіця,
А тут прачнулася і плачам
Сябе вярнула да жыцця...

Жыве шчэ маці, жывы сведкі,
І партызанскай славе жыць.
Ці не аб іх зімой і ўлетку
Наш беларускі лес шуміць?

* * *

Травы і дзеці растуць уначы —
Некалі чула такую прыкмету.
І адасніцца зямлі далячынь
Снамі маленства шчодрага лета.

Хто не ўздыхаў аб былое пары,
Марыў у казку вярнуцца употай,
Дзе, як наяве, ляціш да зары
У нескашчоным імкненні палёту.

Лёгка і плаўна паветра нясе,
Вось небакрай адступае бязгучна,
Бы раскрывае табе пакрысе
Волю жыцця і яго неўміручасць.

Можа, адсюль западае ў душы
Прага адкрыццяў нязнаных прастораў,
Мара палётаў да новых вяршынь,
Дзе пасміхаюцца ласкава зоры.

Можа, таму касманаўтам у снах
Сняцца радзіма і маці дагэтуль,
Рэкі без назваў, пакосы ў лугах,
Травы маленства шчодрага лета...

* * *

Дзень адгарэў.
Начное свежасці
Лунае подых.
Адна малітва
Перада мной
без слоў —
Накрый крылом мяне сваім,
Прырода,
У споведзях
блакітных вечароў.
Крані бязгучнай
Цеплынёй змяркання,
Той цішынёй,
Што возерам без дна
Ўбірае зор
Далёкае маўчанне
І цені
адыходзячага дня.
Калі я ў поле выйду
Сцежкай прыдарожнаю,
Якую выбрала сама
Калісьці ў снах,
Услед за думкамі
Часам заварожаным
Плыве чабору
Непрытомны пах
І голаў кружыць.
Ды бачыцца так ясна,
Як месяц нізкі
Краем узыходзіць,
І чуецца,
Як бор шуміць
Стамлёна, глуха.

Тады ўздыхаю
Волю ў асалодзе.
Душа баліць,
А сэрца хоча слухаць
Свет цішыні,
Разлітай серабрыста,
Травы дзіцячы голас,
Сум сасны пахілай.
Іду насустрач
Забыццю прачыстаму,
Нібы на словы
Песень тваіх, мілы...

* * *

Я лесам іду, як па беразе,
Асенняй дарогі ўскрай.
Пад белым паніклым ветразем
Схіліўся бярозавы гай.

Паветра звініць крыштальнае,
З лагчыны туман, як дым.
Смуткуе пара развітальная
У кожным лістку залатым.

Яшчэ цішыня не трывожана,
Сюды грыбнікі не дайшлі.
Я слухаю час заварожана
І крокі свае на зямлі.

Саткана з блакіту чыстага
Блішчыць павуціння ніць.
Спынюся, нібыта ля пристані,
Куды ж мне адгэтуль плыць?

І марай лячу нясмелаю
За гай, праз гады аблачын,
Нясуць мяне ветразі белыя
У жаданую далячынь.

Туды, дзе шляхі замглёныя
Пралеглі насустрач вятрам,
Дзе хвалі і буры салёныя
Плывуць услед караблям.

Дзе шчасце, як мора, зменліва
І светлы жыцця небакрай
Згадае пад сонцам праменліва
Асенні бярозавы гай.

# АГЕНЬЧЫК

Сляпы агеньчык, хто цябе не бачыў
Блуканнямі паміж дарог?
Гарыш адзін у цемры і нястачы
Як напамінак ад перасцярог.

Хто не знайшоў ні шчасця, ні спакою,
Дагэтуль шляхам уначы ідзе.
Запалены прыветлівай рукою,
Свяці, агеньчык, дабрыні надзей.

Каб спадарожнік забываў пра стому,
Засмучаны ў далёкай старане,
Знайшоў прытулак, дзе спагадай дома
Пакінуты агеньчык на акне.

Я выклінаю марныя турботы,
Якія дні мае не могуць зжыць,
А дзесьці за імклівым паваротам
Дарогай лёс нязведаны бяжыць.

І для мяне агеньчык непагасны
Гарыць і кліча трапяткім святлом.
У добрым свеце спадзяванняў ясных
Як даўні сябар — запаветны дом.

## ЛІРНІК

Не лірык першым быў, а лірнік,
Наш спадарожнік на зямлі,
І струны песень яго мірных
Гучаннем памяці жылі.

Усім трапляўся на дарогах,
Хто не адолеў свет спярша,
І там спыняўся ля парога,
Куды прыводзіла душа.

Вылечваў сэрцы ён ад болю,
Умеў адвесці ад бяды...
Адорвалі — хто хлебам з соллю,
А іншыя — глытком вады.

За праўду гаварыла ліра,
Слыла за мудрасць між людзей,
Хоць не было тады куміраў
І жабраком быў дабрадзей.

Непадуладны да высновы,
Паданняў свет святлей святла.
Напэўна, з іх народа мова
Паэтам гонар зберагла.

Каб словы выбіралі шчыра
Спрадвечнай чысцінёю мук,
Стары жабрак пакінуў ліру,
Як развітальнай песні гук.

* * *

Журыцца вечарам сцішэлым,
Мігае зорачка ўва мгле,
Забыты ліст паперы белы
Ці поўня на маім стале?

Ступіла за парог спякота,
І свежасць лінула ў пакой.
Так надыходзіць час работы.
Благаславёны мой спакой!

Шчаслівай існасці збавенне,
Калі нясмелая рука
Выводзіць воляю натхнення
Абрыс няяснага радка.

Пакуль неразгадана побач
Пульсуе думка слову ўслед,
Маўчыць сусвет, як бедны побыт,
Якім валодае паэт.

А там, дзе творчасць уладарыць,
Смяецца юная душа,
Імгненнямі бяссмерце марыць
І п'е з Мядзведзіцы каўша.

Адзін мой стол стары прывычна
Ласкава грэе мне далонь,
Ды прахалодзіць ноч крынічна
Бяссонніцу маю і скронь.

* * *

Гадзіны працы
У цішыні,
на досвітку,—
Даступна нават мне
Спакою неацэннасць,
Як прачынаюся
З птушыным летнім посвістам,
Нібыта да пачатку
Першай змены.
А ранак свежы
І жыццём бадзёры
Мяне вітае
Дабрынёю друга,
Па вуліцах
Першапраходцам горада
Пачаў тралейбус
Нескончонасць круга.
Ужо метро адкрылі.
Хутка хлыне
Сюды галоўны пасажыр —
Наш люд працоўны,
І паязды
падземных ліній
У гэты час
Звычайна перапоўнены.
Зайздрошчу ўпотай тым,
Каго чакае
на заводзе
Станок
і родны цэха шум,
У працы несціханы,
Дзе ўсё дакладна,
Як пара ў прыродзе,

І прадугледжана
Заданнем плана.
Мяне ж і ў радасці
Трывожыць кожны ранак,
Дзень невядомы
Вынікам у працы.
Натхненне,
Ты прыходзіш нечакана,
А можна і зусім
Цябе не дачакацца...
Радок,
Дзе ж твой пачатак доўгі? —
Пакутна слова
Думкамі вярэдзіць.
Цішэе вуліца.
Ад'ехалі
на «Волгах»
Чыноўнікі,
мае суседзі.
Пакуль апоўдзень
Праспявае звонкі,
Праз двор плывуць
Па справах гаспадаркі
Уладныя
маіх суседзяў жонкі,
Высокапрафесійныя кухаркі.
Заняты горад
Буднямі тыпова,
Ды надзівіцца
Не змагу ніколі
Складанасцям
І прастаце жыццёвай,
Што назіраю
Раніцай міжволі.

* * *

«Не прадаецца міг натхнення,
Ды можна рукапіс прадаць!» —
Хацеў вясёлым жартам геній
Заробкі з вершаў апраўдаць.

Мяняліся часы і званні,
Услед за ісцінай старой
Імкнуць паэты апраўдання
Сумленнай годнасці сваёй.

Да славы лірык несвядомы,
Не дасягнуў яе вушэй.
Сусед, дырэктар гастранома,
Па значнасці — куды вышэй.

Абранніка пазнаць па карку,
Набыткамі жыве сям'ёй.
Ці ж так наладзіш гаспадарку
З капрызнай музаю сваёй?

І ўсё ж цікаўнасць ёсць такая,
Да працы нашае папрок —
Знаёмы здзіўлена пытае:
— Няўжо вам плацяць за радок?

Што праўда, тут не растлумачыць,
Залішне многа нам даюць,
Таму паэты, не іначай,
За век больш вып'юць, чым з'ядуць.

Быў ходкім верш заўжды таварам,
Куды б гандляр яго ні збыў,
Шкада вось толькі, з ганарару
Ніхто бяссмерця не набыў.

Прыхільны лёс да нас нязменна,
Смерць выбірае без чаргі,
А за труной — юнацтва цені
І пажыццёвыя даўгі.

Хоць многіх ты, крылаты геній,
Парадай мусіў апраўдаць:
— Не прадаецца міг натхнення,
Ды можна рукапіс прадаць!..

## СІНІЧКА

Рабіны сёлета ўрадзіла —
Прыкмета лютае зімы.
Што людзям станецца на дзіва,
Галодным птушкам — на кармы.

Увішная мая сінічка,
Ты будзіш на дасвецці сон:
У шыбы стукаеш, як зьнічка,
Каб адчыніла я балкон.

Цябе частую чым багата,
Вітаючы знаёмы стук,
І запрашаю шчыра ў хату,
І прывучаю есці з рук.

Але пужлівая без меры,
Сінічка снедае адна
І, паглядаючы на дзверы,
Здалёк садзіцца ад акна.

Нібы гаворачы: — Даволі,
Што дармавое ем сама.
Няхай галодная — ды воля,
Чым сытая — але турма!

Я з гэтым меркаваннем згодна.
Калі ў рэальнасць час вяртаў,
Сябрыны зман і смак свабоды
Які паэт не паспытаў?

Замест надзеі меў патрэбу,
Не мучыўся душой які? —
І літасць, бы кавалак хлеба,
Прымаў не з кожнае рукі...



І юбілеі, як хаўтуры,
Пазначаны актывам людным —
У непасрэднасці натуры,
Па мэтазгоднасці прэлюдый.

А колькі тут прамоўцаў штатных,
Што большасць слоў сплыве бясследна,
Сяброў адданых і заўзятых,
Прыяцеляў на час бяседы!

Паміж чужых і блізкіх твараў,
Знаёмых позіркаў узнёслых
Пад ценем славы ў юбіляра
Душа нудзіцца на нябёсах.

Ад анекдотаў да гісторый —
Усё было і безліч будзе.
Жывуць паэты з алегорый,
Хай судзіць час інакш, чым людзі.

І ўсё ж у будучыні месца
Хаця б радку наканавана:
Не на гады жыцця — на месяц,
На дзень, паэзіяй абраны.

Як невядомы нам патомак
Парой натхнення вечаровай
Адкрые свет — забыты томік,
Спазнанага з маленства слова.

Яму ў пачуццях адгукнецца
І боль, і цуд, не раз апеты.
Успомніць ён крывінкай сэрца
Сабрата, што не знаў дагэтуль.

## ДАЎГІ

Даўгі — шаўкі. І не загана
Шаўкі насіць, як пазычаць.
Па гэтай прымаўцы прыбрана
У аксаміты я, відаць.

На грошы быў мой быт бязладны,
Лепш за навуку дактароў
Праз іх спазнала я дакладна
І дабрадзеяў, і сяброў.

Арыгінал звярала з тварам,
Прыблізны сутнасці здаля,
Удзячная бязмерна скнарам
За вартасць кожнага рубля.

Але суцешуся нямала:
Нястачы ліха абміне,
Аддзячу, у каго не брала
І тым, хто вінаваты мне.

Бярыце шчодраю рукою
Да лішняга — усё аддам.
Багацце толькі непакоіць,
Спакон багатага шкада.

За доўг жыцця не разлічыцца,
Паставіўшы сваю цану.
Ад шчасця можна адкупіцца,
А смерць — ніхто не падмануў...



Каб мовіць паэтавай фракцыі
Дазволіў бліскучы Феб:
— Кідайце, сябры, рэдакцыі,
Ідзіце на вольны хлеб!

Паэту, як вольнаму воля,—
Жаданняў няздзейсненых край.
Вядома, рэдактар — не доля,
Але ж без рэдактара — рай!

На службе не лаўры — ядловец,
Працуй за чужы ганарар,
Удзячны ж табе пачатковец
Пасля не вітаецца ў твар.

А воля, як песня на ганку,
Ірвецца душа напрасткі.
Не будзяць ад самага ранку
Старых графаманаў званкі.

І пішацца ўсім на здзіўленне,
І п'ецца вада, як віно.
Бо тое, што лічым натхненнем,
Свабодай завецца даўно.



Мой распарадак непарушны,
Нязменны і стары, як свет:
Уранку мыць я посуд мушу,
Гатую ўвечары абед.

Да працы злічаны гадзіны,
І абганяю здань сваю —
Паўдня хаджу па магазінах,
Дакладней, у чарзе стаю.

Вось чэргі абышла і сваркі,
Чакаюць кухня і пліта,
Кармлю ўсіх членаў гаспадаркі,
Найперш — сабаку і ката.

Пакуль не забалелі скроні,
Час за пісьмовы стол сядаць.
Рэдактар выдавецкі звоніць:
Адно — пра рукапіс згадаць.

Лагодны тон яго празмерна
У дадатак да маіх нястач —
Канчаецца апошні тэрмін,
А кнігі не відно, хоць плач!

Як будзе дзень, то будзем жывы!
Вясковай мудрасці паклон.
І я чытаю дэтэктывы,
Бо не разлічваю на сон.

Так жанр славуты палюбіўся,
Зайздрошчу аўтарам пакуль:
Над логікай ніхто не біўся,
Прашыў забойцу парай куль.

Як у жыцці, усё тыпова,
Тут не які-небудзь санет:
І следчы — хлопец адмысловы,
Такі ж праўдзівы прайдзісвет.

Хай просты змест і незнаёмы,
Адразу ўцяміш, хто — каму...
А выкрыты махляр, вядома,
Мяняе дачу на турму.

І [illegible] забудуся да рання
У падрабязнасцях сюжэт,
Памыю посуд да снядання,
Згатую ўвечары абед.

Мой распарадак непарушны,
Нязменны ён, як свет стары.
— Пакуты ачышчаюць душы,—
Калісьці класік гаварыў.

## ВІШНЯ

На ўскраіне мілай, ля возера,
Шлях з горада ў вёску прамы.
Вясновая квецень. Бульдозеры
Драўляныя валяць дамы.

Будоўля па плану намечана
У гэтым раёне старым.
Ад ранку да позняга вечара
Руйнуюць машыны двары.

Халупы змятаюць на смецце
І з памяці назаўжды,
Вось толькі сумуюць у квецені
Пакінутыя сады.

Пад корань аджыўшае зносіць
Для новабудоўлі прасцей.
А дрэвам — пара пладаносіць,
І кожнае маем цвіце.

Хлапец, да работы ўвішны,
Бульдозер свой з месца скрануў
І вокам на белую вішню
У шчырым здзіўленні зірнуў.

Высокая, гордая станам,
Яна не стаяла — плыла,
Як воля жыцця, апантана
Насуперак лёсу цвіла.

І росныя кроплі-імгненні
Гарэлі ў аблоках галін,
Былі ў ёй агонь ачышчэння,
Святло пранікнёных хвілін.

Была ў ёй красы непаўторнасць,
І радасць, і смутак былі,
Вясновага дня жыватворнасць,
Магутныя сілы зямлі.

Так хлопцу ад болю ці стомы
І сонца не стала відно,
Ён родную вёску ўспомніў,
Якую пакінуў даўно.

Даўно прытуліў яго горад.
Усё, аб чым марыў, здабыў,
А тут перасмягла ў горле,
Бы нешта навекі згубіў.

Ён доўга стаяў непрыкметны
Адзін ля чужога жытла,
А вішня, як песня над светам,
Плыла па вясне і цвіла.

* * *

Вяршыні пракаветных сосен
Шалёны вецер так хістаў,
Пярун, нягледзячы на восень,
У калясніцы грукатаў.

Маланкі білі штохвілінна,
Што я малілася з зямлі,
Каб грозны бог маю хаціну
Па недагляду не спаліў.

З кутка ступала асцярожна,
Стаць баючыся ля акна,
І страх ахопліваў трывожна —
Ці дачакаю давідна?..

А дождж ішоў, як час парожні,
І супыніцца ён не мог,
Нібы адвечны спадарожнік
Усіх няпройдзеных дарог.

Гучаў у велічных грымотах
Прыроды справядлівы гнеў,
І нехта плакаў з адзіноты,
І падалося, што па мне.

Калі ж развіднела пад ранак,
На ачышчэнне грэшных душ,
Вуглі дыміліся маланак
У полымі чырвоных руж...

## ПАВОДЛЕ БУНІНА

Як добра сэрцу быць свабодным,
Калі шчаслівым нельга быць,
І нават розумам халодным
Жыццёвай горычы не збыць.

Страфа вядомая акрэсліць
Мінулай шчырасцю хвілін:
Сабаку вернага ля крэсла,
Агнём палаючы камін.

Каму жаданне не вядома
Таемным поклічам душы? —
Печ запаліць у стылым доме
І жар, як памяць, варушыць.

Калі наблізяцца адразу,
Каб аддаліцца назаўжды
Усмешкі лёсу і абразы,
Усе пражытыя гады.

І час без ценю красамоўства
Прад'явіць доказы прыкмет —
Прыватнасць зыбкую сяброўства
І подласці трывалы свет.

Дарую ворагам міжволі
Учынкамі сяброў спаўна.
У прыхаваным даўнім болі
Ёсць прысмак добрага віна.

Не долі чуюцца пагрозы —
Завеі снежаньскай выццё,
А дровы трэскаюць з марозу
І цішыня, як забыццё...

* * *

Памерла бабуля Марыля.
Застаўся магілы грудок.
Дрэвы старыя накрылі
І голас яе, і слядок...

У роднай зямельцы, не ў скрусе,
Пятнаццаты год ляжыш.
Прабач, што ніяк не збяруся
Паправіць пахілены крыж.

На радаўніцу не схадзіла,
Бо клопаты з-за дзяцей.
І з кветак, што я насадзіла,
Ніводная ўжо не цвіце.

Сюды ў адзіноце прыходжу,
Нягледзячы на пару,
Фарбуючы агароджу,
З табой услых гавару.

І смерць мне здаецца не болей
Працягу ў зямным адкрыцці.
Каб ведаць, дзе меней болю:
У «гэтым» ці ў «тым» жыцці?

Як многае лёсам страчваў,
Хто літасць спакою прасіў?
Даўно я, бабуля, не плачу,
Даруючы ўсё і ўсім...

Вось гэтак у месцы жалобным
Няспешныя думкі цяклі.
І сэрца здалося падобным
На жменьку сухой зямлі...

# ЛАДА

Міне кароткі дзень зімовы,
Здаецца, ноч даўжэй жыццяі,
І навагодні пах яловы
Дзіцячай радасці працяг.

Мароз ударыў на каляды,
Надвор'ю лепшаму не быць.
На месячык аўчарка Лада
Ваўчыцаю спрабуе выць.

Няўжо туга ў яе такая,
Што разбудзіла продкаў кроў
І дзікім голасам склікае
Сваіх братоў, лясных звяроў?

У месячным святле раўніны
Сасніўся ёй забыты край,
І палявання бег няспынны,
І еднасць волі воўчых зграй.

Яе служыць людскому роду
Прызначыў чалавек, як бог,
А памяць роднае свабоды
Дарэшты адабраць не змог.

Магутную падняўшы шыю,
Нібы ахвяру гнала ў круг,
Ваўчыцаю аўчарка вые,
Пракляўшы вернасці ланцуг.

Смяротным духам пакаленняў
Пакой раптоўна схаладзеў,
Як праз хвіліну на калені
Яна мне галаву кладзе.

## ВОСЕНЬ

Зімы прыкметаю жаданай
Ужо маўклівыя палі
І лістапад зачараваны
Мароз уранку пабяліў.

Але зямля цяпло трымае.
Апоўдзень грэецца ў мяжы,
Вясну на жарты пераймае,
Калі спяваюць капяжы.

Блакіт праменіць сонца ззянне,
Што свет здаецца маладзей.
І поры года ў развітанні
Падобны чымсьці на людзей.

Так восень светлай адзінотай,
Нас пакідаючы, ідзе
У шлях далёкі, незваротны,
Вітаючы пагожы дзень.

Прывычны крок яе нячутны
Зазімкам першым па расе.
Непадуладная пакутам,
Усмешку ясную нясе.

Нібыта ведае: расстанні
Смуткуюць прагай навізны.
Яна мінае ў спадзяванні
За марай будучай вясны.

## НЯМІГА

Мой горад да плошчаў туліцца,
Метро пад асфальтам гудзе.
Ракою з зямлі гэта вуліца
Адлікі вытокаў вядзе.

Чытаю яе, нібы кнігу,
А голас Баяна пяе.
Вякі не змянілі, Няміга,
Ні дол, ні каменні твае...

І водгукі рускае славы,
І слёзы жалобнай тугі
Ўвабралі ад сечы крывавай
Былыя твае берагі.

Здаецца, патокам няспынным
Свой час не прыспешыла ты
З тых дзён, як харобра дружыны
Паставілі смерці шчыты.

За князя: па волі і слову
Малоцяць булаты-цапы.
Палеглі ўдалыя галовы
Зашмат на таку, як снапы.

О, колькі тых бед непапраўных
Прымала на грудзі зямля!
Няміга, як плач Яраслаўны,
У вечнасць цячэ спакваля.

І рыпнуць гісторыі сходкі,
Калі адгукнуцца гады,—

На вуліцы нашыя продкі
Шаломам зачэрпнуць вады.

Як горад накрые туманам,
На сонца і боль даўніны
У голасных песнях Баяна
Завуць Ярослава сыны...

* * *

Асінаўка. Абідаўка. Запруддзе...
Як назвы песень, вёсачкі былі.
Бярозы. Могілкі. Ля хаты студня,
Дзе журавель да спадчыны зямлі.

Нібы ў маленстве, хочацца напіцца
Вады студзёнай з поўнага вядра
І цераз край замшэлы нахіліцца
На цьмянае прадонне серабра.

Адкуль павее холадам у вочы,
Спалох дзіцячы заглушае ўскрык,
Бо з глыбіні заплача, зарагоча
Стары, як рэха, мудры вадзянік.

Наіўныя маёй бабулі чары
Яшчэ жывуць у роднай старане,
Хоць з цягам часу іншыя пачвары
Палохалі, ды не звялі мяне.

Гады прайшлі, падобныя імгненням,
А з памяці — кругамі па вадзе —
Мой недавер да тых пераўтварэнняў,
Што сустракала толькі між людзей.

Асінаўка. Абідаўка. Запруддзе...
Вы — непаўторны ўвасабленняў свет!
Бяру ваду крынічную са студні,
Якую выкапаў калісьці дзед.

Яна стаіць, адзіная, на месцы,
Дзе некалі было маё жытло,
А вадзянік на дне хавае месяц,
Пакуль не згасне дзённае святло.

## ВЕРАСЕНЬ

Лета дажджлівае
Жнівень сушыць.
Загарам апошнім
зняверуся.
Чакаюць мяцежна
ўпартыя душы
Прыходу
ласкавага верасня.
Калі без дзяцей
Апусцее пасёлак,
Дарослыя з'едуць услед
талакою,
І спыніцца час
У ранішніх шолахах
Доўгачаканым
спакоем.
Тады я адчую
Цяжар свайго цела,
Пакутлівы боль
у скронях,
Жаданні,
што здзейсніць учора хацела,
І страты,
што зведала сёння.
Адчую:
Ні шчасце, ні мары —
Нішто не збылося.
Навошта шукаю прычыны?
Паўсюдна
Мая адзінота,
Як ціхая восень,
І сум —
нібы куст язміну.

Стамілася.
Мабыць, пара прыспела.
Відаць,
Прызначана кожнаму з нас
Адчуванне такое —
Хочацца сэрцу,
Заўчасна збалеламу,
Толькі спакою.
Можа,
    і гэта жаданне часовае,
Ды пакланюся
    ў вернасці
Яснаму дню,
    святлу вечароваму
І сінявокаму верасню.
Дрэвы
    скідаюць пажоўклае лісце,
Быццам уздых
    аблягчэння.
У смутку прыроды
Лепшае выйсце —
Асенні агонь ачышчэння.
Ці не аб ім
З вераснёвага краю
Мару я ў лесе
    ўзнёсла?
Каб нарадзіцца вясной —
Дагараю
Медным адценнем
    соснаў.



Плывуць на захад аблачыны,
Зімовы горад,
                    як у сне,
А мой чарговы адпачынак,
Як і заўсёды,— па вясне.

Так, уздыхаючы употай,
Вясны чакаючы ганца,
Жыву і мару за работай,
Каторай не відно канца.

Марудны час маёй кватэры
Да сонца цягнецца смялей,
Ліст распачатае паперы
За першы снег ляжыць бялей.

Усё для працы пад рукою,
Падрыхтаванае даўно,
З зусім нятворчым непакоем
Раз-пораз зазірну ў акно.

Не прамінуць бы той хвіліны,
Як загучыць птушыны спеў,
Ад сну абудзяцца галіны
Высокіх пракаветных дрэў.

Забуду ўсё:
                    старыя звычкі,
Сяброў і рукапісны стог,—
За паўгадзіны электрычка
Пазбавіць колішніх трывог.

Калі на ўзлесак выйду ціха,
Дзе задуменна сярод дня
Стаіць магутная ласіха
І з ёй малое ласяня.

Ім хлеба пакладу акрайчык,
Для смаку сыпануўшы соль...
Праменлівы аслепіць зайчык,—
Пранізлівы свабоды боль.

* * *

Сяброўства шчырыя кабеткі!
Ці варты вас мае радкі?
Не запрашаю чорта ў сведкі,
Шкадуючы яго бакі.

Шчаслівым выпадкам упартым
Калі б якую ні сустрэць —
Не трэба варажыць на картах,
У люстэрка можна не глядзець.

Усё дакладна вам вядома
У мінулым і на гэты час:
Каго кахаю,
з кім знаёма,
Што я піла — віно ці квас.

Чым сын парадаваў у школе?
Як сустракала Новы год?
Чаго сабака мой скуголіў?
Ці начаваў у хаце кот?

Дзе шыла модную сукенку?
Хто сёння мне званіў на дні? —
Адказ чытаю ў вашых зрэнках
Расчуленае дабрыні.

Сізіф,
да цяжкасцей ахвочы,
Не здужыць тое за вякі,
Што паспыталі вашы вочы,
Перамалолі языкі.

Расстацца з вамі немагчыма,
Не вымесці пад памяло...
Што б знала пра жанок мужчыны,
Каб іх сяброўак не было?

Я з вашых рук прымаю каву,
Прыязні даўняй саладзей,
І дзеля вас мой твар рухавы
Самой усмешкі маладзей...

# КАЛІНА

Зіма ў лясы прыйшла з раўніны,
На золку холадам зарыць,
Адна чырвоная каліна,
Як закаханая, гарыць.

Пяюць яе галіны звонка
Скрыпічнай музыкай надзей,
Да снегу выспелыя гронкі
З марозу сталі саладзей.

Ёсць у яе абліччы штосьці
З чароўных вобразаў былін —
Туга дзявочай прыгажосці,
Пяшчота позняя жанчын.

Ёсць горыч прывіднага шчасця,
Любові невыказны свет...
І колькі лёсаў можа скласці
Яе вясновы белы цвет!

Калі ж на зайздрасць і на дзіва
Гарыць чырвоных ягад жар,
Нібы свякруха, палахліва
Зіма глядзіць каліне ў твар,

Што не змаглі састарыць злосна
Дажджы і нават маразы,—
Такі ж прыгожы і дзівосны,
Чысцей няпрошанай слязы...

* * *

Агонь шукае прагна выйсця —
Касцёр расклаў у садзе дзед.
Ён паліць леташняе лісце,
Задумаўся, нібы паэт.

Якія ж у старога думы?
Няёмка збоку папытаць,
Няма ў вачах ягоных суму
І болю мне не прачытаць.

Спакойна старасці развага.
З прычыны яснасці якой
Гады бяруць жыцця адвагу
І дораць мудрасці спакой?

Ён з раніцы шчапаў лучыны,
Памалу лісце ў кучу гроб,
Сухія ўзрэзалі маршчыны
Упарты і прыгожы лоб.

Стаіць ля вогнішча, падкіне
Для жарту трэску ў едкі дым,
А вока ўспыхне бляскам сінім,
Нібы імгненнем маладым.

Успомніць ёсць аб чым набытым.
Куды з надзеяй ні зірні —
Адчуеш — доўгі век пражыты
І злічаны дарэшты дні.

Даўно няма патрэбы ў словах:
Ён знае вечнасці адказ.
Цяпер глядзіць на сад вішнёвы
Спакойна, бы ў апошні раз.

## НА ЗЯМЛІ АДАМА МІЦКЕВІЧА

Дубы стаяць, але зусім старыя.
Той шлях жыве, якім хадзіў паэт,
Калі спатканні прызначаў Марылі
І прысвяціў ёй першы свой санет.

Чужой дарогай славы незалежнай
Брыду з турыстамі, услед гадам,
А з барэльефа горда і мяцежна
Глядзіць на нас задумлівы Адам.

Здаецца, чайкі клічуць тыя ж буры,
Дагэтуль Свіцязь сцеражэ свой сон,
І пра каханне свежую халтуру
Крычыць спявак сталічны ў мікрафон.

Пра што гавораць, думаюць пры гэтым?
Наш век інакшы. Можа, і дарма.
Даўно няма Марылі і паэта
Ды і кахання гэткага няма.

І толькі голас светлы і самотны
Чароўныя згадаюць берагі:
— Я вас кахаў так верна, так пяшчотна...
І дай вам бог шчаслівай быць з другім!

* * *

Сонца высока ў зеніце.
Мірна паснулі сычы.
А перапёлачка ў жыце
Зранку тужліва крычыць.

Сон гэта ці напамінак,
Што спасылае жыццё? —
Нібы ў маленстве развіну
Жытніх калоссяў асцё.

Дзе перапёлчына гора
Лёгка блукала за мной,
Там расступалася мора
І паўставала сцяной.

Колькі з таго пражыта!
След ад маленства ачах.
Ледзь нагадае пра жыта
Хлеба духмянага пах.

Не закрываючы вочы,
Слухаю голас начы.
Піць перапёлачка хоча,
Недзе тужліва крычыць.



Гарачы жнівень лавай стыне,
Ад спёкі пабялеў блакіт.
Паненкі гордыя вяргіні
Надзелі яркі аксаміт.

Мой кветнік,
як на пышным балі,
Нячутнай музыкай цвіце.
На ружы гледзячы, каралі
Прымерваю дзеля гасцей.

Ды як бы мне ні прыбірацца,
А гараджанкаю не быць,—
З усіх паслуг цывілізацый
Я горад здолела забыць.

Крывёй маіх сялянскіх продкаў
З табою злучана, зямля,
І род пачаўся наш кароткі
З вясковай кузні каваля.

Жыццё разменьвала на страты,
Не баючыся перамен,
Маленствам
сніліся мне хата
І цеплыня драўляных сцен.

Спакоем раніцы збалелай
На ганку ў ясныя часы
Бацькоўскі сад успомню белы
І дзедаў човен ля касы.

Так кожны дзень ад новай працы
Незасмучоны на гады,
І сталі ціха аддаляцца,
Нібыта зоркі, гарады.

А кветнік мой на пышным балі
Нячутнай музыкай цвіце.
На ружы гледзячы, каралі
Прымерваю дзеля гасцей.



Прывілі ружу на шыпшыну.
Квітнела ружа без нуды.
І рос з зямлі заўжды няспынна
Дзічок шыпшыны малады.

Хіба жыцця была не варта
Яго з-пад караня рука? —
Але садоўнік быў упарты,
Няўладны дубчык адсякаў.

Старэлі ружа, сад і хата,
І смерць садоўніка ўзяла.
За лёс няўмольнаю расплатай
Шыпшына буйна зацвіла.

Паднялася надзіва дужа,
Дагнаўшы іншыя кусты,
І заглушыла кветкі ружы
Капрызнай, кволай пекнаты.

Калі, спагадная да згоды,
Бывае, ў жорсткай барацьбе
Час выпраўляе так прырода,
А людзі дзівяцца ў журбе.

Ці долі выдумка такая? —
Няма змагання без прычын,
Ды толькі ружы наракаюць
Заўжды іменамі жанчын.

## У БАРЫ

Гарачы поўдзень. Смолкая жывіца
Блішчыць слязой гаючай на кары.
Мякчэй за мох апалыя іглiцы,
І цішыня, як вечнасць, у бары.

Люблю блукаць да патаемнай зморы,
Жаданага спакою на душы
Мясцінамі, дзе спачываюць зоры
І мітусяцца толькі мурашы.

На ўзлеску сосны адліваюць меддзю,
У гушчары сыры хаваюць змрок,
Старыя пні, як бурыя мядзведзі,
Пільнуюць кожны шолах мой і крок.

Бязмежжа лета, часу і свабоды!
Праходжу тут, як выпадковы госць,
Хай адгукнецца мірам мне прырода
І азавецца светам маладосць.

Дзе не змагу ніколі наталіцца
Адным імгненнем мудрасці быцця,
Дзе мару зноў нанова нарадзіцца
З імглы і промняў іншага жыцця.

Каб распачаць чароўную старонку
І плыць, закрыўшы вочы, па рацэ
Да краю лета, дзе стаіць сасонка,
Вяслом юнацтва звонячы ў руцэ...

## ЖАЛЕЙКА

Стаіўшы стомленыя вейкі,
Як спадарожнік ці мастак,
Ён гукам смутнае жалейкі
Пасёлак абудзіў, дзівак.

Нязвыклая лілася песня,
І штосьці дзіўнае было,
Нібыта ў старадаўнім лесе
Паданне сонцу ажыло.

Распачыналіся нанова
Надзеі шчасця і тугі,
Як ненароджаныя словы,
Як незвычайны свет другі.

Той ранак летняга спакою,
І прыгажосці, і святла
У сэрцах зварухнуў такое,
Аб чым душа балець магла.

Палагаднелі людзі тварам,
Былыя ўспомніўшы часы,
Здаецца, клікалі ахвяры
Да продкаў сумныя лясы.

Апрануты сугучна модзе,
Жалейку палюбіў юнак.
Іграў ён песню аб народзе,
Як спадарожнік ці мастак.

І я задумалася крыху
Аб тым, што будзе, што міне,
Стаяла ля музыкі ціха,
І не заўважыў ён мяне.

* * *

Ірдзее ліст. Напэўна, хутка восень.
Крынічка шкліцца холадам вады.
Паволі знікне птушак шматгалоссе
І высахнуць ласіныя сляды.

Час, як мастак, у ціхае майстэрні
Спрабуе фарбы ў новым палатне.
Чакаюць сцены гарадской кватэры,
Дзе некалі жылося добра мне.

Цяпер няўтульна ад'язджаць і горка
Забытых рэчаў адчуваць пагляд,
Успамінаць знаёмую вавёрку,
Што раніцай наведвалася ў сад.

Як апусцее цішыня навокал
У прадчуванні восеньскай журбы!
Пад вечар дождж пастукаецца ў вокны
Ды пад страхой застогнуць галубы.

Бывай, мой кут, адзіны мой прытулак,
Дзе я спазнала радасці спакой,
Калі спагаду ўпершыню адчула,
Да дрэва прытуліўшыся шчакой.

Вярнуся зноў у марныя турботы
Абмежаваных гарадскіх выгод,
Дзе будзе сніцца шчасце адзіноты,
Што падарыў мне высакосны год.

Яшчэ маленства сонцам запылёны
Гукае лета рэхам голас мой,
Пакуль сцяжынка па вясне зялёнай
Не зарасце някошанай травой.

* * *

Арэшнік
Пад акном расце бязгрэшна,
Сама яго садзіла,
Уволю паліваю.
Не дачакаю яблык і чарэшань,
Але арэхаў
Будзе з ураджаю.
На куст разлапісты,
Пушысты
Дзівіцца мне заўсёды
люба.

Вавёрка з лесу
залацістая
Таксама на арэхі
Точыць зубы.
Клубніку
выбірае асцярожна
Пад раніцу
І думае,
што я не бачу.
У шыбіну пастукаю —
Яна праз агароджу
Шугае полымем у лес
І па галінах скача.
Ласуха хітрая!
Суседствам цесным
Мы правялі мяжу
Па добрай згодзе:
Вавёрачка
Гаспадаруе ў лесе,
А я ў гародзе.
Ды ўсё ж абедзве мы —
Жанчыны...

Пільнуючы мяне, суседка
Аблюбавала дрэва,
Вачэй не зводзячы з ляшчыны,
Як з яблыні
калісьці Ева.
Арэх сарву зялёны
і смяюся,
Бо грэх у нас агульны,
Першародны...
Пазнання смак
І горкі і салодкі,
Але не верым
Забабонам рая:
Няхай пра нас сарокі
Носяць плёткі,
Паціху куст
Мы з ёю абіраем...

* * *

Ужо развіднела.
Зімова.
Позна.
Снег падаў уначы
Апошні,
патаемны.
Мне вуліца
дыхнула ў твар,
Як сакавік,
марозна,
Прасветлена
вясноваю паэмай.
Цяплее хутка.
Сонца да палудня
Сцякае з дахаў
кроплямі
Надзіва мілагучна,
Туманяцца
сцяжынкі будняў,
Бы ручаіны ўдалячынь,
Спяшаюць
неўміруча.
Вясна прыйшла.
Заўважна гэта
І на плошчы ля вакзала,
Дзе выхады з метро
бурляць,
Як з-пад зямлі крынічкі,
Нясуць людзей патокі.
Зямля яшчэ, напэўна,
не адтала,
А дачнікі
штурмуюць электрычкі.

І я спяшаюся,
Хоць ведаю:
дарэмна.
Снег векавы
пакуль ляжыць
У лесе
і на полі,
Яшчэ вясны
блакітная паэма
Не зрушыла
прыроды навакольнай.
Мы разам
З гаспадарлівай
суседкай
Па цаліне
адлічваем слядочкі
І палім печ,
гаворачы пра кветкі,
Снег накладаем
У пустыя бочкі.
Мой сад,
як і душа,
Чакае вызвалення
Ад сну глыбокага,
зімовага палону,
Пупышкі-немаўляты
прагна п'юць
Жаданыя
вясновыя прамені.
І зноў
народзіцца лістота
Па жыцця законах...
Чароўная пара,
Не абмінай мяне
Адвечнасцю імгнення!

## ВОЎЧАЕ ЛЫКА

Дрэвы пакуль што без лісця,
А лес ад зімы без'языкі,
І блытае рэха
Вясновыя сцежкі часцей.
На ўскраі ўзлеска
Воўчае лыка
Россыпам
ярка цвіце.
Сырых тумаоў
не адтаялі цені,
Сонечны промень
Зямлі не адчуў яшчэ,
Між голых галін —
Як зорак мігценне,
Што немагчыма
Адвесці вачэй.
Заўсёды ў прыродзе
Сустрэнецца дзіва.
Хто назву прыдумаў такую
І дзеля чаго?
Воўчае лыка...
З кветак тваіх
палахліва
Радасць красы
азавецца ў душы
Тугой.
Адзіным ускрыкам
Літасць мая
прыхаваная
Не апраўдае
Варожасць людзей да звяроў.
Воўчая пастка —
Жорсткасці сэнс нечаканы,

Зазімкавым следам
Ірдзее жывучая кроў.
Болем у памяці
Сном аднолькавым сніцца:
Зноў праз гушчар,
Зразаючы шляхам адхон,
Ад логава смерць
Адводзіць ваўчыца.
Імчыць паляўнічай
Нянавісці гон.
Інстынктам
ці прагай прывычнае волі
Апошнія сілы
Яна беражэ...
І лес памярцвелы
Расступіцца голлем —
Свабода
заўсёды жыцця даражэй.
Трафеі драпежныя
Славяцца слыхам.
Хай знішчылі маці —
Не знойдуць дзяцей.
Зорным мігценнем
Яе прадсмяротнага ўздыху
Воўчае лыка
На ўскраі ўзлеску цвіце...

* * *

Чэрвень сыходзіць
Жаданнямі лепшымі,
Патухае,
як след бліскавіцы.
На лузе не ўсе
Стагі завершаны —
Пара касавіцы.
Дажджынку,
слязу няпрошаную
Паглынула сухая глеба.
Стаіць
над сенажаццю пакошанай
Адна аблачынка неба.
Сёння ўжо
На апошнюю выйдуць дзялянку
Ахвотныя хлопцы,
Касцы вясковыя,
Пакуль жа трава
Спачывае на ранку
У буйнай расе
вечаровай.
Пуста на вуліцы.
Адзін толькі бусел
Над вёскай
кружыць мірна.
І я на світанні, мроячы,
Не зварухнуся
Ля млына старога,
над вірам.
У месцы зацішным,
Загадкавым свеце,
Дзе болю няма
шкадавання,

Дзе нават улетку
Праз ніцае вецце
Ні спёка,
ні дождж не дастане.
Сюды я прыходжу,
Каб слухаць маўкліва
Гаворку
рачное плыні,
Сачыць, як вадой
Сплываюць імкліва
Маёй адзіноты
хвіліны.
Здаецца мне вір
Загадкай адкрытай,
Якую вось-вось
разгадаю,
І чуецца голас
Зямнога нябыта,
Калі нахілюся
да краю.
Як нечыя вочы
Шчымліва-самотна
За мнойназіраюць
халодна...
Усё ў чалавеку
Нікчэмна смяротна,
Адвечна жыццём ты,
прырода!

## КУПАЛЛЕ

Спрадвеку жыта
Сеялі і жалі,
Хоць край не славіўся
Зямлёй багатай,
Шмат продкі нам пакінулі
Ў спадчыну,
І ўсё ж — купалле
Любімае
майго народа свята.
Жывуць у песнях
Дзіўныя паданні,
Што ў даўніну
Сумелі людзі скласці,
Гарыць купалля ноч
Надзеямі кахання,
Квітнее
таямнічай
Кветкай шчасця.
Пяшчотаю чулліваю
дзявочай,
Рачулкай ціхай,
Па якой
вянкі сплываюць,
Між берагоў
Святло купальнай ночы
Зачараваны чэрвень
разлівае.
Мядова пахнуць
Травы на пакосах,
Блішчыць, як месяц,
Прыдарожны камень,
Буйнымі зорамі
Купалля росы

Успыхваюць
                    і патухаюць самі.
Ля вогнішча
Ігрышча з карагодамі,
Агонь трапеча
Варажбою ночы,
Як мне хацелася
Па звычаю народнаму
Праз полымя
Адчайна пераскочыць.
З усіх жаданняў,
Незваротна страчаных,
Яно ва мне
Да скону будзе біцца...
Агонь — таксама
Нашых продкаў спадчына
Са старажытнасці
І таямніцы.
Люблю гадзінамі
Любым надвор'ем
Сядзець ля вогнішча
Ці ў печ падкідваць дровы,
Глядзець на полымя
І адчуваць,
                    як пастулова
Усё забываецца:
І радасці і гора.
Спакойна на душы
Ля роднага цяпла
І мроіцца да схочу,
Пад бег хвілін світальны,
Да той пары,
Як высахнуць на сонцы
Дабяла
Сцяжынкі непаўторнай ночы —
Маёй, купальнай...

* * *

Палеткі ўзаралі,
Адсеялі жыта.
Гарачай парой
Трактары адгулі.
Цяпер цішыня.
Ясным блакітам
Неба сышлося
З краем зямлі.
Чуваць,
як у лесе
Зязюля на долю
Адлічвае, шчодрая,
Годы дарма.
Іду я скрозь вёсны
Па жыццёваму полю
Шляхамі бязмежжа,
Дзе краю няма.
Трывогі і мары
Змяняюцца днямі,
Сустрэнуць нагоды,
як дождж —
Паласой,
Бы з рэшата,
густа
Насеюцца самі —
Сярпом не сажнеш іх,
Не скосіш касой...
Ды веру і прагну
Так шчасця адчайна,
Надзея,
як сонца,
Заўсёды са мной,
Турботы і будні,

І час аднастайны
Пад колер вясёлкі
Фарбую вясной.
Благое адыдзе
Ці стане забытым,
У будучым
Самыя лепшыя дні.
Хай поле жыцця
Не засеяна жытам,
Сагрэе зямля
Цяплом дабрыні.
Я зноў да яе
Безаглядна гарнуся,
Як парастак,
сілай
Карэнняў жывых,
У горы і шчасці,
Пяшчоце і скрусе —
За памяццю сэрца
Ад продкаў маіх.
Барозны ралля
Прасцірае далёка
Шляхамі бязмежжа
Ад зім да вясны,
І свеціцца неба
Блакіт яснавокі,
Чаруе пра долю
Зязюля услых.

* * *

Карэктары,
Вярстальшчыкі,
лінатыпісты!
Не думаюць пра вас паэты
Ў працы марнай,
Але паперы
Кожны аркуш чысты,
Здаецца,
пахне
Тыпаграфскай фарбай.
Адыдуць вобразы паэзіі
нячутна.
Што слова?
Народжанае вершам,
Разам з намі
састарэе скора,—
Нязменна ў кнізе
Вашая прысутнасць —
Высокім шрыфтам,
Вечнасцю набора.
Я выдавала
зборнікаў багата.
Радкоў маіх
графічныя эстампы
Выходзілі
З друкарні камбіната
Не ў якасці
Паліграфічных штампаў.
Праз вашы рукі
Прайшлі,
Занатаваныя
ў пачуццях, годы.

Паклон вам нізкі
да зямлі.
Удзячнасці
прыміце ўзнагароду!
Аповесці,
паэмы і раманы
Празаікі пісалі
і паэты.
Вы рукапіс
чытаеце старанна,
Рыхтуеце
з'яўленне кнігі свету.
На тытуле
вясёлкаю агністай
Імёнаў вашых
Друкарня не дае,
Але ж які не скажа:
— Карэктары,
Вярстальшчыкі,
лінатыпісты,
Пачэсныя сааўтары мае!

## СЫНУ

Адчужаныя сны мальберта
ідуць,
Сынок,
у твой пакой дзіцячы.
Ты спіш, а мне бяссоннем чуць,
Як, развітаўшыся з табой,
Маленства плача.
На палатне,
Нібыта ў распачатай долі,—
Няма малюнка, накіда,
Ніводнай цёмнай рысы,
Святлом жыцця
Яно бялее.
І горка мне да болю
Перабіраць
забытыя эскізы
Уласнай маладосці,
занатаваныя
Рукою пачуцця,
Мазкамі лёгкімі алею...
Становішся дарослым ты,
А я — старэю.
Хай вобраз
закаханага юнацтва
Цябе праводзіць
Светам несканчоным
Непадуладнага
майстрам мастацтва
Прыродных фарбаў,
Колераў,
паўтонаў
Заўсёды зменлівай натуры.
Сны мальбертаў

Ідуць у твой пакой
З маіх партрэтаў,
Напісаных
у беднасці майстэрань,
Дзе галасы мінулага
Яшчэ гучаць дагэтуль,
Аддаленыя праз гады празмерна,
Як спадарожнікі планеты,
Імя якой — юнацтва.
Сэрцам гордым
Я не забыла дарагія страты,
І кожны рух
Рукі тваёй няцвёрдай
Малюнку памяці
Падобны штучна
На палатне
гадоў маіх збалелых.
Я маляваць, на жаль, не ўмела...
Мой талент
быў, відаць, аднабаковы,
Не мне вучыць
На ростанях кагосьці
Сугуччам вопыта і слова,
Бо не злічыць
сваіх памылак...
Жыві, сынок,
Натхненнем прыгажосці,
Пакуль жыццё
Трывае сэрца сілы.
Мастацтва
выбірае нескароных,
А прыгажосць —
Заўжды безабаронная,
Як і каханне...

## ЗМЕСТ

### I. ЧАС СПАТКАННЯ

## II. У СПОВЕДЗЯХ БЛАКІТНЫХ ВЕЧАРОЎ

**Вярба В.**

99 Яраслаўна: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1986.— 118 с.

У новай кнізе вершаў вядомай беларускай паэтэсы Веры Вярбы пераважае лірыка — спрадвечная і новая. Паэтэса славіць працоўныя будні, хараство і прыгажосць прыроды. Многія вершы прысвечаны тэме мацярынства.

В $\frac{4702120200-086}{М302(05)-86}$ 51—86 ББК84 Бел7

# ВЕРА ВЕРБА
(Гертруда Петровна Соколова)



# ЯРОСЛАВНА
**Стихи**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *Р. М. Яўсееў*
Мастак *К. Г. Ціхановіч*
Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава*
Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо*
Карэктар *Л. Т. Калюжная*

ІБ № 2409
Здадзена ў набор 14.02.86. Падп. да друку 24.04.86. АТ 00565. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,39. Ум. фарб.-адб. 4,61. Ул.-выд. арк. 4,23. Тыраж 4200 экз. Зак. 2203. Цана 45 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

З набору Мінскага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбіната МВПА імя Я. Коласа, 220005, Мінск, Чырвоная, 23, друкарня Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка», 220600, Мінск, Ленінскі праспект, 68. Зак. 868.